# БЕЛАРУСЬ

Штадзенная палітычна-эканамічная і літэратурная газэта

пад агульным кіраўніцтвам Язэпа Лёсіка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ II.

Падпіска на 1 м-ц: з перасыл. 20 р. без перас. 17 р.

АБВЕСТКІ: на 4-й страніцы прымаюцца ва ўсіх мовах па 2 мк. за радок пэтыту.

Газэта выходзіць штадня, апроч дзён пасьлесьвяточных.

Рэдакцыя і Кантора: Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом (б. Юбілейны).

Рэдактар прымае ад 12—1 гадз. Кантора адчынена ад 9 да 2 гад. і ад 5 да 7 гад.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і з адрэсам аўтара.

Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад рэдакцыі.

Рукапісы назад не выдаюцца.

ЦАНА 1 МАРК.

№ 5 (61). Менск, Субота 10 студзеня 1920 г. № 5 (61).


## Да зямельнай праграмы увагі.

**Вызваленьне працоўнага сялянства.**

Справа вызваленьня працы ад панаваньня капіталу неразрыўна зьвязана з процэсам *разьвіцьця ўсіх творчых сіл* кожнага краю. Гэта ў роўнай меры адносіцца як да сфэры фабрычна-прамысловай, так і сельска гаспадарскай. З гэтага пагляду й трэба ўзірацца на разьвязку ў Беларусі зямельнага пытаньня,—пытаньня аб *вызваленьні беларускага вясковага працоўнага народу* з-пад панаваньня зямельнай буржуазіі, якое вынікае з факту ўладаньня апошнімі вялізарнымі абшарамі зямлі.

**Падвойны характар малазямельля.**

Залежнасьць беларускага вясковага працоўнага люду ад зямельнай буржуазіі ёсьць дваякая. З аднаго боку, тутака ўжо пачаў вытварацца кляс сельска-гаспадарскіх работнікаў--парабкоў, якіе ня маюць ніякае зямельнае ўласнасьці. З другога боку, пераважываючая маса сялянства—гэта малазямельные гаспадары, якіх зямля, пры сучаснай нізкай зямельнай культуры, ня можа пракарміць, і яны прымушаны частку сваей сілы рабочай прадаваць панскім двором. Дый нават значная часьціна сялян, якім гаспадарка дае гэтулькі, што ім на скромнае жыцьцё хватае, знаходзяцца ў тэй або іншай залежнасьці ад двароў ці то праз недахватку. пашы, вады, лесу, ці сэрвітуты і т. п.

Падвойны характар сялянскага малазямельля перашкаджае нормальнаму расслаеньню сельскага насяленьня на клясы. Патрэба для малазямельных сялян прадаваць сваю рабочую сілу на месцы і немагчымасьць кінуць на адзін мамэнт сваю гаспадарку робяць тое, што заработная плата гэтых, прыкованых да свайго загону людзей норміруецца чыста мясцовымі варункамі і часта адбіваецца на заработках сельска гаспадарскіх работнікаў - пролетарыяў, паніжаючы яе. З другога боку, такі малазямельны хлебароб—гэта найчасьцей благі гаспадар, дый увесь плён свае працы спажытковывае для сябе, нічога не прадаючы на рынку.

**Тэндэнцыя вёскі.**

Скасаваньне гэтай падвойнасьці—вось першая задача, якую трэба бачыць у зямельным пытаньні. Жыцьцё беларускай вёскі, тэндэнцыя малазямельнай гаспадаркі да пашырэньня яе абшару, ўрэшце—ўся псыхалёгія беларускага сялянства,—ўсё наказвае, што зьніштажэньня падвойнага характару малазямельля хлебаробаў трэба ждаць дарогай павялічэньня малазямельнай гаспадаркі да рацыянальнай нормы.

**Вытворчая норма.**

Жыцьцё адкідае норму трудавую —значыць, і той тып гаспадаркі, пры каторым яе разьмеры павінны адпавядаць сілам гаспадара вырабіць свой надзел сваімі рукамі, не карыстаючыся наёмнай сілай.

Трудавая норма—гэта небясьпека для ўсяго насяленьня мест, бо яна абніжае вытворчасьць дробнай сялянскай гаспадаркі да мінімума, залежнага ад зьменнага складу сямьі, і прымушае ўвадзіць перадзелы, каб у малалюднай ці абязьлюдзеўшай сямьі зямля не марнавалася пустуючы. А ўсялякіе перадзелы—гэта ёсьць разьбіваньне і руйнаваньньне таго зусім непаддаючагася перакройцы арганізаванага варштату, які становіць кожная сельская - гаспадарская адзінка. Беларускі селянін, прывыкнуўшы ад вякоў да нязьменнай гаспадаркі на праве асабістай уласнасьці, ніколі ня здолеў-бы прыспасобіцца да сыстэматычнага руйнаваньня наладжанай сыстэмы гаспадаркі рэзаньнем і перарэзываньнем яе.

Норма павінна быць не трудавая, а *вытворчая*. Гэта значыць, што яна павінна даць селяніну магчымасьць ня толькі пракарміць сябе, але *куды найбольш прадуктыўным спажыткаваньнем рабочай сілы даць даволі хлеба на рынак*, які дагэтуль блізка цалкам заспакоівaецца адными дварамі. Патрэбна устаноўленьне мінімуму зямельнай уласнасьці. Толькі тады зямельная рэформа, *абертаючы сялян у прадуцэнтаў*, папхне ўпярод разьвіцьце вытворчых сіл краю, не абніжаючы сельска-гаспадарскай прадукцыі, што было-бы нямінучым пры *пераходзе дворных абшараў у рукі народу* на грунце працоўнай нормы.

А *такі пераход нямінучы*, бо зямель скарбовых, прыгодных пад управу, ў нашым краі зусім мала (яны пераважна пад лесам), дворные-ж абшары становяць каля 45% усёй зямлі.

**Права Ўласьнасьці.**

*Зямля, як лясы, воды і нетры зямлі—гэта нацыянальнае багацьце.* Толькі ўвесь народ у сваім цэлым павінен быць гаспадаром усіх зямельных абшараў, лясоў, вод і тых мінэральных скарбаў, якіе захованы ў зямной нетры. І тут трэба стаць прынцыпіяльна на грунце нацыяналізацыі зямлі.

Аднак, той факт, што беларускі селянін—нават самы малазямельны—ёсьць тыповы ўласьнік, што фактычная нацыяналізацыя ўсяе зямлі выклікала-бы востры конфлікт з паглядамі і пажаданьнямі вясковых працоўных мас,—той факт прымушае шукаць разьвязкі зямельнага пытаньня на грунце *захаваньня прыватнае ўласнасьці, аграпічываючы адначасна законамі права прыватнае ўласнасьці і конфіскуючы зямельную рэнту на карысьць усяго народу.*

**Конфіската і выкуп.**

Раз разьвязка зямельнага пытаньня вымагае пераходу, вялікшага абшару зямлі ў рукі малазямельнага сялянства, раз ад гэтага залежыць вызваленьне вясковага рабочага люду ад панаваньня абшарнікаў,—народ павінен агранічэньне зямельнай уласнасьці пачаць ад вялікіх дворных абшараў. А як гэные абшары становяць пераважна народнае дабро, расхопленае панамі ў часах шляхоцкага панаваньня,—дык *усё, што вышэй максімуму,* які павінен быць спэцыяльна устаноўлены, *мае быць залічана ў нацыянальны зямельны фундуш бяз ніякага выкупу.*

Конфіската бяз платы ўсяе абшарніцкай зямлі немагчыма: раз права ўласнасьці для сялян астаецца, яно ня можа быць скасована для другой катэгорыі ўласьнікаў, пакідаючы іх бяз куска хлеба і варштату працы. Апрача таго, вялікшые гаспадаркі, як глаўные прадуцэнты хлеба, ня могуць быць зьвішчаны бяз моцнага паніжэньня агульнае прадукцыі хлеба. Дзеля гэтага, пасьля конфіскаты лішку па—над максімум, вялікшые гаспадаркі ў межах таго максімуму не падлягаюць конфіскацыі. Толькі ў прыпадках, калі-б давядзеньне малазямельных гаспадароўда нормы вытворчай вымагала далейшага пераходу дворных зямель у нацыянальны фундуш,—пераход гэты павінен адбывацца дарогай *выкупу таго,* што ніжэй устаноўленага максімуму.

Ведама, вялікіе гаспадаркі, якіе маюць асабліва высокую культуру, павінны быць захованы ў цэласьці і выкарыстаны дзеля навуковых мэт, дзеля спэцыяльнага вытвору тых ці іншых прадуктаў і т. д. Яны могуць здавацца ў рукі хаўрусаў сельска-гаспад. работнікаў—безьзямельных.

**Рацыянальные фэрмы.**

Пры арганізацыі дробных рацыянальных гаспадарак павінна быць зроблена ўсё, каб яны здавольвалі патрэбы рынку і папраўдзе станавілі поступ у разьвіцьці вытворчых сіл краю.

Зямельная палітыка павінна кіравацца да самага шырокага разьвіцьця коопэрацыі—як для збыту, так і вытворчай, а на гэтым грунце і да індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі.

**Аграніч..ньне права ўласнасьці.**

Законам павінна быць забясьпечана немагчымасьць драбленьня сялянскіх гаспадарак ніжэй мінімальнай нормы (выняткі могуць быць роблены толькі для высока-культурных зямель, а норма павінна паніжацца ў меру падняцьця зямельнай культуры). У зьвязку з гэтым закон устаноўлівае варункі пераходу зямлі з рук у рукі і агранічывае права спадчыны, а также перашкаджае зямельнай спэкуляцыі, пакідаючы нацыянальнаму фундушу пяршэнство на куплю прадаваных зямель.

**Беззямельные.**

На роўных правох з малазямельнымі павінны быць забясьпечаны і беззямельные гаспадары, якіе вядуць гаспадарку на арэнднай зямлі, а также ў меру магчымасьці—беззямельные парабкі.

Наагул-жэ, парабкі павінны карыстацца з асаблівай апекі законаў, калі працуюць у дварох ці ў сялянскіх фэрмах.

**Рэнта.**

Конфіскованая рэнта павінна плаціцца ўсімі гаспадарамі ў касу зямельнага фундушу ды йсьці на пакрыцьце: 1) коштаў па правядзеньню зямельнай рэформы; 2) выкупу зямлі ў фундуш; 3) помачы гаспадаром дзеле разьвіцьця і паляпшэньня гаспадаркі. **А. Н.**

## АПОШНІЕ НАВІНЫ.

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПОЛЬСКАГА ГЭНЭРАЛЬНАГА ШТАБУ.**

Ад 6—І.

**Літоўска-Беларускі фронт.** Нашы войскі ўсполку з прыязнымі латыскімі войскамі, пад супольнай камандай гэнэрала Рыдз-Сьміглага ў прысутнасьці і пад агульным кірункам камандуючага фронтам гэн. Шэптыцкага, здабылі, 3-го студня а 1-й гадзіне дня, место і крэпасьць Дзьвінск. Адначасна пасунуліcь наперад: латыскіе атрады на поўнач, польскіе атрады на ўсход ад Дзьвінску. Гэткім чынам асягнута беспасрэдняя лучнасьць паміж Польшчай, Латвіяй і Эстоніяй. З ваеннай здабычы дагэтуль адмечана некалькі сот палонных, некалькі гармат з упражкай, колькінаццаць кулямётаў і шмат чыгуначнай маетнасьці. На рэшце фронту ажыўленая разьведчая чыннасьць.

**Валынскій фронт.** Стычкі разьведчых патрулёў.

Ад 7—І.

**Літ. бел. фронт.** Пры пашырэньні нашага наступленьня к поўначы і ўсходу ад Дзьвінску нашы і Латыскіе атрады зянялі лінію ракі Дубны. Затым, цераз Вышкі і ст. Маліназука прашлі да Дзьвіны. Устаноўлены цесны контакт з латыскімі войскамі.

Моцнае бальшавіцкае нападзеньне на прадмостнае умацаваньне Бабруйску каля вёскі Вавулічы адбіта. Пры гэтым, мы ўзялі некольки дзесяткаў палонных.

**Валынск. фронт.** К усходу ад Ракіткі наш разьведчы атрад зрабіў моцны напад і разьбіў каля Бела-Карэвічаў заслону бальшавіцкага панцырнага поезду. Пры гэтым, мы захапілі болей дзесяці палонных і кулямёт. На рэшце фронту ажыўленая разьведчая чыннасьць.

Ад 8—1.

**Літ.-бел. фронт.** Бальшавікі пастанавілі бараніць Дзьвінск усімі сіламі і толькі адвага нашых латыскіх войск, рашучасьць і здольнасьць каманды паслужылі прычынай такому удачнаму рэзультату гэтай опэрацыі.

Цяперашніе няпэўные бальшавіцкіе контр-атакі на Вішкі і Дубно, якіе робяцца сьвежымі войскамі, разьбіты нашымі часьцямі.

На паўдні ад Полацку нашые часьці учынілі энэргічны напад, разьбіўшы варожые пазыцыі каля Карпанічы, захапіўшы болей дзесяці палонных.

На рэшце фронту жывая разьведачная чыннасьць.

**Валынскі фронт.** Старанные разьведкі.

———

**Арганізацыя беларускага войска у Францыі.**

Спаўняючы просьбу Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, Францускі Урад загадаў выдзяліць спаміж быўшых расійскіх вайсковых у межах Францыі ўсіх беларусаў.

Выдзяленьне ўжо пачалося ў крэпасьці Вэрдэн пад кірункам францускага генэрала Рампона ў паразуменьні з беларускім міністрам абароны, палкоўнікам Ладновым.

Беларускіе часьці ўжо пачалі арганізовывацца. Гэтае войско будзе падлягаць беспасрэдна Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі.

**Хаос у Прыбальтыцы.**

ВАРШАВА, 8—І. Прыбальтыцы грозіць небясьпека новай вайны паміж Эстоніяй і Латвіяй.

Паміж Латвіяй і Літвой началіся непаразуменьні на груньце устанаўленьня граніц. Магчыма, што паміж гэтымі абедзьвюма дзяржавамі пачнецца новая война. У некаторых паграцічных мясцох ужо адбываюцца ваенные стычкі.

**Польшча окупіруе Украіну?**

ЛЬВОЎ 9 — 1. У румынскіх урадовых кругах адтрымана вестка, што коаліцыя перадасьць Польшчы мандат на заняцьце ўсей Украіны. Як рэкомпэнсацыю, коаліцыя зробіць Польшчы розные уступкі. Галоўным камандзірам окупацыйнай арміі павінен быць гэнэрал Развадоўскі.

**Польшча проці бальшавікоў.**

ЛЬВОЎ, 8—І. „Одесскія Новости“ паведамляюць, што ў скорым часе будзе вынесена пастанова аб перадачы Польшчы Валынска-Літоўска-Беларускіх „крэсаў“ за яе змаганьне з бальшавікамі.

**Жмерынка у руках палякоў.**

ЛЬВОЎ, 8—І. Польскі чыгуначны батальён заняў ст. Жмерынку.

# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Упраўленьне усходніх зямель** апрацавало плян дзяржаўных налогаў на тэрыторыі усходніх зямель. Прадпрыемствы, якіе вядуць бухгальтэрскіе кнігі, павінны уплачываць у казну: маючые прыбытак ня вышэй 10 000—10% з агульнага прыбытку: да 20.000—15%; да 30.000—20%; да 50.000—25%; вышэй і 50.000—30%. Для тых прадпрыемстваў, якіе не вядуць бухгальтэрыі, устанаўліваецца аблажэньне з агульняй сумы капіталу: 350.000—1½%, са 100.000—2% і г. д. да 5% з 500.000.

**Выбары у жыдоўскую абшчыну** адложаны на тыдзень з прычын немажлівасьці арганізаваць вольную прадвыбарную кампанію. Абшчына па гэтай справе падала вышэйшай уладзе мэмарандум.

**У магістраце**, ў зьвязку з блізкім прыходам новай думы, зноў не выплачываецца пэнсія служачым.

Прыём магістрацкіх спраў новай думай мае пачацца 15—20 студня.

**Заявы аб падаходным налогу** дамаўласьнікі павінны як найхутчэй падаць вучастковым падатным інспэктарам.

Кватаранты перадаюць гэтые заявы дамаўласьнікам.

Тэрмін на гэта ўжо скончыўся 7-га студня.

За непадачу—штраф.

**У пушкінскай бібліатэцы**, дзеле паднявцьця рэсурсаў бібліатэкі, уводзіцца аднапасное аблажэньне ўсіх абанэнтаў пяцірублёвым зборам.

**Дроў** 80 вагонаў дастаўлено гэтымі днямі ў Менск.

**Мясцовые банкі** камандзі; авалі сваіх агэнтаў у Варшаву для прывозу вялікіх партыяў дробных грашавых знакаў, у якіх у Менску чуецца недастатак.

**На біржы** апошнімі днямі было вялікае ажыўленьне. Курс польскай маркі неспадзеўна і катастрафічна панізіўся. За царскіе 500-кі плацілі ад 190 да 205 польскіх марак за 100. За 100 польскіх марак плацілі 50—47 рублёў. У зьвязку з гэтым вельмі паднялася другая валюта. За 100 крон плацілі 75—100 польскіх марак, за 1000 думскіх—700—750 польскіх марак. За доляры плацілі 140—150 марак. Учора курс польскіх марак троху павялічыўся. За 100 марак плацілі 57—59 рублёў. Запатрабаваньне на царскіе грошы вялікае.

**На ст. Менск** гэтымі днямі прыбыло 10,000 скрынак запалак, 12,000 кіло сьвечак, 75 бочак селядцоў і 15,000 кілг газэтнай паперы, шмат шкла, электрычных матэр'ялаў і інш.

**Перарэгістрацыя** служачых чыгункі менскага вузла цяпер ідзець вельмі жыва.

**50 ёлак для дзяцей** у школах уладжываецца заўтра, 11-го студня.

**У арэштны дом** гэтымі днямі будзе пераведзены ўвесь зьлішак арыштантаў (за дробные праступкі) з губ. турмы, з прычын яе перапаўненасьці.

**Прадажа па бонах** солі (па 1 ф. на душу і газы (7½ ф.) ідзець ва ўсіх коопэратывах.

**Хлеб** у прыватнай прадажы каштуе 5 марак фунт.

**Грабежствы і зладзействы** апошнімі днямі зноў прынялі эпідэмічны характар. Мабыць, у Менску працуюць некалькі добра арганізованых неулавімых шаек.

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец — Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт.*

## Абвестка.

Перыядычные курсы вярбунковых агентаў адчыніліся ў панядзелак 5 студня а 9½ гадз. у бышым Юбілейным доме.

Ад 1 гадзіны быў калёквіум і паверка знаньня беларусазнаўства і выдача білетаў слухачом.

За кіраўніка курсаў **В. Адамовіч.**



З дазв. вайсков. цэнзуры № 5, 10/I. Менск. Друкарня Інвалідаў.